# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№ 8 (171)
жнівень 2016

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

## У НУМАРЫ:

### "Шляхі да беларускай нацыі": тое, што доктар прапісаў

Днямі ўбачыла свет першая публіцыстычная кніга вядомага канадскага дзеяча беларускай эміграцыі Пётры П. Мурзёнка.

Працяг на стар. 2

### "Стары Ольса": беларуская мара на маршы

Тур "Ольсаў" – гэта ці не самая моцная прамоцыя беларускай культуры, якая калі-небудзь здаралася на тэрыторыі ЗША.

Працяг на стар. 3

### "Водбліскі падаюць на мастака ад любой крыніцы святла – і гэта робіцца бачным у яго карцінах"

Гутарка з Вячкам Целешам, лідарам Аб'яднання мастакоўбеларусаў Балтыі "Маю гонар".

Працяг на стар. 5

### «Барадулінкі»: культурнае развітанне з летам

Прэзентацыя кнігі Віктара Марціновіча, адкрытыя заняткі "Мова нанова", выступ Андруся Такінданга, збор сродкаў на мемарыльняю шыльду Рыгору Барадуліну...

Працяг на стар. 8




Фота "Радыё Рацыя"

# Ніна Шыдлоўская: ДАЛЕЙ БЕЛАРУСКАМОЎНАЙ РЭКЛАМЫ БУДЗЕ БОЛЕЙ!

"З прычыны эканамічнага крызісу рынак беларускай рэкламы звузіўся, адпаведна, рынак беларускамоўнай рэкламы таксама", – паведаміла Ніна Шыдлоўская, сустрашыня аргкамітэту фестывалю "aDNaK" падчас паказу найлепшай беларускамоўнай рэкламы ў Гародні.

Гэта пацвярджаецца тым, што агульная колькасць удзельнікаў сёлетняга фестывалю зменшылася. Праз эканамічны крызіс рэкламны рынак за 2015 год скараціўся больш чым на 30%. Аднак суарганізатар фестывалю не губляе надзеі:

– На рынку будзе ўзмацняцца і расці беларускамоўны сегмент, бо нарэшце прыйшло разуменне, што гэта дае станоўчы імідж тым кампаніям, якія рэкламуюцца пабеларуску. Кожны змагаецца за прыязнае стаўленне да сваіх тавараў і паслуг, і попыт на беларускую мову ўзмацняецца.Мы спадзяемся, што далей беларускамоўнай рэкламы будзе болей.

Фестываль беларускамоўнай рэкламы "aDNaK" ініцыяваны грамадскай культурніцкай кампаніяй "Будзьма беларусамі!", каардынатарам якой, у сваю чаргу, з'яўляецца ЗБС "Бацькаўшчына". За сем гадоў існавання фестываль паспеў стаць адметнай з'явай у культурным жыцці Беларусі, змяніў стаўленне да беларускай мовы ў рэкламе і прыцягнуў увагу такіх фірмаў, як BOSH, Samsung, Velcom ды іншых.

**Паводле: Кася Бергель, "Беларускае Радыё Рацыя"**

гутарка

## ВЫЙШАЎ АЛЬБОМ КАВЕРАЎ ГУРТА "СТАРЫ ОЛЬСА" "MEDIEVAL CLASSIC ROCK"

Гурт "Стары Ольса" выдаў альбом сярэднявечных кавераў на сучасныя рок-хіты. Грошы на запіс і выданне дадзенай плыткі былі сабраныя з дапамогай краўдфандынгплацоўкі Kickstarter. На CD альбом з'явіцца ў лістападзе.

**Альбом можна паслухаць на старонцы гурта на сэрвісе bandcamp.com**



навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# "ШЛЯХІ ДА БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ": ТОЕ, ШТО ДОКТАР ПРАПІСАЎ

Днямі ўбачыла свет першая публіцыстычная кніга вядомага канадскага дзеяча беларускай эміграцыі Пётры П. Мурзёнка "Шляхі да беларускай нацыі".

Выданне складаецца з артыкулаў і допісаў, публікаваных цягам трох апошніх гадоў у штоквартальным інтэрнэт-часопісе "Культура. Нацыя" (sakavik.net), якім аўтар апякуецца.

Пётра Мурзёнак аналізуе праблемы развіцця беларускай нацыі і дзяржаўнасці, даследуе ментальнасць беларусаў, разважае пра ўзаемадачыненні нацыі і рэлігіі, нацыі і мовы, нацыі і свабоды.

Доктар медыцынскіх навук, прафесар, спецыяліст у галіне імуналогіі і фізіялогіі, супрацоўнік Акадэміі навук, жыве ў Канадзе з 1998 года, дзе цяпер працуе ў Міністэрстве аховы здароўя і ўзначальвае Атаўскае аддзяленне Згуртавання беларусаў Канады. З 2013 года выдае вэбчасопіс "Культура. Нацыя" (раней – "Сакавік"). Ад 1995 года піша вершы, выдаў тры паэтычныя кнігі. Друкаваўся ў часопісе "Крыніца" (Беларусь), газетах "Наша Ніва" (Беларусь), "Беларускае слова" (Таронта) і "Беларус" (Нью-Ёрк), у альманаху "Беларус". Уклаў кнігу прозы свайго бацькі, Пятра Сільвестравіча Мурзёнка, якая была выдадзена ў 2015 годзе ў серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны".




**Першую кнігу публіцыстыкі Пётры Мурзёнка можна набыць у кніжных крамах:**

*Мінск*
- Акадэмкніга (пр-т Незалежнасці, 72)
- Цэнтральны кніжны (пр-т Незалежнасці, 19)
- Кнігі & Кніжачкі (пр-т Незалежнасці, 14)
- Веды (вул. К. Маркса, 36)
- Кнігарня пісьменніка (вул. Казлова, 2)
- Светач (пр-т Пераможцаў, 11)

*Берасце*
- Іскра (вул. Пушкінская, 4)

*Віцебск*
- Светач (вул. Кірава, 10)
- Глобус (вул. Замкавая, 12/30)

*Гародня*
- Праметэй (вул. Савецкая, 10)

*Пінск*
- Полымя (пл. Леніна, 4а)

*Навапалацк*
- Дом кнігі (вул. Маалдзёжная, 145)

А таксама ў інтэрнэт-кнігарні knihi.by

навіны

## 25 ГАДОЎ ТАМУ ДЭКЛАРАЦЫЯ АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ СУВЕРЭНІТЭЦЕ БССР НАБЫЛА СТАТУС КАНСТЫТУЦЫЙНАГА ЗАКОНА

Роўна чвэрць стагоддзя таму, у жніўні 1991 года, Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі набыла статус канстытуцыйнага закона.

Дэкларацыя, якая абвясціла вяршэнства беларускай Канстытуцыі на тэрыторыі БССР, была прынятая Вярхоўным Саветам годам раней, 27 ліпеня 1990-га. За яе прагаласавалі 229 дэпутатаў з 232, якія зарэгістраваліся, трое – устрымаліся.

Статус закона дакумент атрымаў 25 жніўня 1991 года, праз тры дні пасля правалу путчу ГКЧП у Маскве. Тады ж на тэрыторыі рэспублікі была спыненая дзейнасць Кампартыі. 19 верасня таго ж года ў сувязі з перайменаваннем БССР у Рэспубліку Беларусь у назву і тэкст дэкларацыі былі ўнесеныя адпаведныя змены, а 15 сакавіка 1994-га ў развіццё палажэнняў дэкларацыі была прынятая новая Канстытуцыя.

**Паводле БелаПАН**

навіны

## КЛАС БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ І ЛІТАРАТУРЫ АДКРЫЎСЯ Ў АМЕРЫКАНСКАЙ ШКОЛЕ

У школе Community Outreach Academy, размешчанай у прыгарадзе сталіцы штата Каліфорнія горада Сакрамента, адкрыўся клас беларускай мовы і літаратуры.

Аб гэтым паведамілі ў прэс-службе МЗС Беларусі. У школе праходзяць навучанне каля 1300 вучняў ва ўзросце ад пяці да дванаццаці гадоў, у большасці сваёй гэта дзеці славянскіх імігрантаў, у тым ліку выхадцаў з Беларусі. Колькасць беларускіх дзяцей, якія навучаюцца ў школе, павялічваецца.

Ідэя адкрыцця беларускага класа ўзнікла падчас наведвання школы ў студзені 2016 года беларускай дэлегацыяй, якая знаходзілася ў Каліфорніі з візітам, і была паспяхова рэалізаваная дзякуючы намаганням дырэктара школы Ларысы Ганчар, якая паходзіць з Беларусі, і пры садзейнічанні з боку МЗС Беларусі, пасольства ў ЗША і Гродзенскага гарвыканкама, якія перадаў школе неабходныя вучэбна-метадычныя матэрыялы.

**Паводле БелТА**

навіны

## БЕЛАРУСЫ ШВЕЙЦАРЫІ ЎСТАЛЮЮЦЬ ПОМНІК ТАДЭВУШУ КАСЦЮШКУ

Асацыяцыя беларусаў у Швейцарыі выступае з ініцыятывай усталяваць у г. Залатурн помнік Андрэю Тадэвушу Банавентуру Касцюшку.

Тадэвуш Касцюшка – прадстаўнік старажытнага беларускага роду Касцюшкаў, ваенны дзеяч Рэчы Паспалітай, удзельнік барацьбы супраць акупацыі Расіі і Прусіі, а таксама ўдзельнік вайны за незалежнасць ад Брытанскай кароны калоній у Паўночнай Амерыцы. Касцюшка нарадзіўся 4 лютага 1746 года ў маёнтку Мерачоўшчына, Слонімскі павет (Рэч Паспалітая), памёр 15 кастрычніка 1817 года у горадзе Залатурн (Швейцарыя).

Чалавек рэвалюцыйных поглядаў, ён імкнуўся спрыяць паляпшэнню становішча абяздоленых. Сялян, якія жылі на яго пакінутых землях у Польшчы, ён вызваліў, а ў сваім завяшчанні наказаў прадаць усю сваю нерухомую маёмасць і купіць на гэтыя грошы свабоду для чарнаскурых рабоў.

Памяць пра Тадэвуша Касцюшку шануецца па ўсім свеце. У апошняй рэзідэнцыі Касцюшкі ў Залатурне размешчаны музей, прысвечаны яго жыццю і дзейнасці.

Асацыяцыя беларусаў у Швейцарыі просіць падтрымаць ініцыятыву ўсталявання помніка Касцюшку ў Залатурне. Як можна падтрымаць праект, чытайце на сайце belswiss.org.

**Паводле "Беларускае Радыё Рацыя"**

навіны

## НАТАЛКА БАБІНА АТРЫМАЛА МЕДАЛЬ «25 ГАДОЎ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ УКРАІНЫ»

Прэзідэнт Украіны Пятро Парашэнка ўзнагародзіў медалём "25 гадоў незалежнасці Украіны" старшыню Таварыства ўкраінскай літаратуры пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў Наталку Бабіну.

"Гэта знак, які паказвае, што украінская дзяржава заўважае намаганні беларускіх інтэлектуалаў, якія накіраваныя на дапамогу і супрацу з Украінай, цэніць іх. Ёсць разуменне таго, што толькі сумеснымі намаганнямі, беларускімі і ўкраінскімі, можна дамагчыся, каб не быць паглынутымі "рускім светам", – пракаментавала пісьменніца.

Таварыства ўкраінскай літаратуры, якое ачольвае Наталля Бабіна, выдае альманах «Справа», дзе зьмяшчаюцца мастацкія тэксты на беларускай, украінскай, рускай мовах і на берасцейска-пінскіх гаворках.

**Паводле: Максім Каўняровіч, "Беларускае Радыё Рацыя"**



Фота lit-bel.org

навіны

# "СТАРЫ ОЛЬСА": БЕЛАРУСКАЯ МАРА НА МАРШЫ, АЛЬБО ЯК СТАЦЬ КУЛЬТУРНЫМ ГЕРОЕМ НЕЧАКАНА ДЛЯ СЯБЕ

"Ведаеш, у Мінск вярнулася столькі класных музыкаў, – сказаў мне прыяцель. – А ведаеш, чаму? У краінах, дзе яны граюць, цяпер Рамадан, і лавіц там няма чаго".

Што беларускія музыкі паспяхова выступаюць па ўсёй планеце – не сакрэт. Пра каго ні спытай, – "ён цяпер па кантракце ў Дубаі". Ці ў Маракешы. Ці ўвогуле ў Пекіне. Але праца па кантракце – гэта адно, а такога, каб беларускі гурт са сваім матэрыялам і адметным гучаннем паехаў турам па ЗША – апошні раз такое было хіба за "Песнярамі".

Спачатку гэта выглядала як жарт: паказчыкі праглядаў на YouTube пачалі, па беларускіх мерках, зашкальваць, і з'явілася думка запісаць "Старому Ольсу" што-небудзь апроч "One" гурта "Metallica". Што выкананне вечназялёных хітоў на сярэднявечных інструментах, частку назваў якіх мы не можам не нават прачытаць з першай спробы, можа стаць нечым большым, стала зразумела пасля вечарыны, прысвечанай "The Beatles", у кавярні "Beetlejuice".

Новы альбом "Старога Ольсы" сустрэлі без асаблівага захаплення – маўляў, крутая задумка, але навошта каверы? Чаму падбор матэрыялу менавіта такі? Па шчырасці, я і сам разважаў пра тое, што, напрыклад, "Hard Day's Night" можна было б і пераламаць рыцарскім ліцвінскім мячом, але пасля зразумеў, што мэта ў гурта іншая.

Не ведаю, ці ўсведамляюць самі "Ольсы", але, здаецца, адзінае добрае, што прынёс нам Год культуры, – гэта іх тур па ЗША. Трыццаць гарадоў за сорак дзён. Канцэрты не для эміграцкай тусоўкі.



Не выкананне сямі-васьмі песняў, што трапілі на апошнюю плытку. Нечаканы марш беларушчыны ад Сан-Францыска да Х'юстана.

ЗША – амаль манапаліст на музычным рынку: усё, што мы любім, як і ўсё, што мы ненавідзім у музыцы за апошнія 70 гадоў, мае амерыканскія карані. Ці можна здзівіць амерыканскага слухача выкананнем "Highway to Hell"? Ды ў кожным бары якой-небудзь Алабамы ўсе гэтыя песні граюць так, быццам самі іх напісалі. У тым і цуд "Ольсы" – зачапілі!

Хто б мог падумаць, што з беларускіх гуртоў так стрэліць менавіта "Ольса"? Гурт легендарны, гурт надзвычай стылёвы, які амаль не дазваляе сабе выходзіць за межы аднойчы ўдала абранага стылю? Але які ў свядомасці стала месціцца на палічцы з надпісам "нішавая музыка". То бок класная музыка, але не для ўсіх. На фестывалі, дзе зліліся метал і фолк? Калі ласка. На тусоўцы ралевікоў? Безумоўна. Вялікі канцэрт у ДК МАЗ? Чаму б не, калі не часцей разу на паўгода.

І тут раптоўна гэтая музыка вырываецца на прастор, куды б не адмовілася выправіцца ўся астатняя, зусім не нішавая музыка. Грошы сабралі менавіта заходнія слухачы, банкет, так бы мовіць, за кошт тых, хто хацеў пачуць гэтыя песні і цяпер пачуе. Трэба дзякаваць "Californication"? Часткова так, але гэта тут не самае істотнае.

Галоўнае, што тур "Ольсаў" – гэта ці не самая моцная прамоцыя беларускай культуры, якая калі-небудзь здаралася на тэрыторыі ЗША. "Карчма", "Кола рыцэрска", "Пахвала Вітаўту" – усё гэта цяпер гучыць на сцэнах, куды не ступала нага беларускамоўнага.

Цікава, ці паўплывае штатаўская адысея "Ольсаў" на папулярнасць гурта на радзіме? Вельмі хочацца верыць, што патэнцыйныя слухачы каманды Змітра Сасноўскага цяпер хоць з цікавасці паглядзяць, што беларускія музыкі могуць такога, што ажно амерыканцы зацікавіліся імі. Зразумела, што не будзе тут ніякіх дзяржаўных прэмій, хіба, можа, ненадоўга звернуць увагу дзяржаўныя СМІ. Тым не менш тое, што цяпер робяць музыкі "Старога Ольсы", выклікае вялікі гонар за краіну і яе музыку, да якой мы, дарэчы, часам ставімся скептычна.

А на канцэрт абавязкова схадзіце: "Кола рыцэрска" – яно і праўда "пекна".

**Юрась Ускоў, "Будзьма беларусамі!"**
**Надрукавана ў скароце.**
**Цалкам чытайце на zbsb.org**

навіны

# 90-ГОДДЗЕ ЯНКІ ЗАПРУДНІКА АДЗНАЧЫЛІ Ў ЗША

З нагоды свайго 90-годдзя Янка Запруднік, адзін з самых вядомых амерыканскіх беларусаў, атрымаў каля сотні віншаванняў з розных куткоў планеты.

Найбольш, вядома, з Беларусі, якую юбіляр сёлета наведаў каб сустрэцца са сваякамі, сябрамі ды прэзентаваць новую кнігу – "Кантакты".

13 жніўня "Happy Birthday" яму спявалі ў цесным сяброўска-сваяцкім коле ў рэстаране "Maggiano's". Юбіляр штонядзелі спявае ў хоры царквы Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы і калегі-харысты выказалі яму сваю пашану, пачаўшы імпрэзу зладжаным "Ойча наш".

Выступоўцы "перабралі" ўсю багатую біяграфію Янкі Запрудніка (Сяргея Вільчыцкага да траўня 1945 года). Дочкі Вера і Ніна ўспаміналі свае дзіцячыя гады. Спадар Вітаўт Кіпель згадаў, што іхнае сяброўства доўжыцца ўжо 72 гады… Валянціна Трыгубовіч адзначыла творчую нястомнасць юбіляра: за апошнія пяць гадоў ён выдаў тры кнігі, якія даюць грунтоўную інфармацыю пра беларускае жыццё на чужыне.



**Традыцыйны здымак усіх прысутных.** Серж Трыгубовіч

Згадвалі цёплымі словамі Янку Запрудніка як гісторыка і журналіста, актыўнага грамадскага дзеяча і навукоўцу, клапатлівага мужа і жаданага суразмоўцу, вострага на слова і спрытнага ў танцах…

Праспяваўшы "Сто лят", госці разышліся з пажаданнем сустрэцца на наступным юбілеі Янкі Запрудніка.

**Валянціна Трыгубовіч, "Наша Ніва"**

навіны

# "КРЫВІЧЫ" Ў МУЗЕІ БРОЎКІ

У музеі імя П. Броўкі 15 жніўня адбылася вечарына, на якой рэй вялі госці з Іркуцка – прадстаўнікі беларускай дыяспары, актывісты Іркуцкага моладзевага клуба "Крывічы" Алег Рудакоў і Вольга Галанава.

Яны падарылі гледачам цікавыя, захаваныя даўнія аўтэнтычныя песні беларусаў-перасяленцаў, а музею – кнігі. Разам з імі спявалі і танчылі і ўдзельнікі вечарыны.

**Паводле Міколы Лавіцкага, facebook.com**



навіны

# АЛЕКСІЕВІЧ АТРЫМАЛА САМУЮ ПРЭСТЫЖНУЮ КІТАЙСКУЮ КНІЖНУЮ ПРЭМІЮ

Святлану Алексіевіч узнагародзілі ў Пекіне кніжнай прэміяй "Вэньцзінь" (Wenjin).



Гэта самая прэстыжная літаратурная ўзнагарода ў Кітаі. Яна была запачаткаваная Нацыянальнай бібліятэкай краіны ў 2004 годзе. Узнагарода прысуджаецца найлепшым кнігам у трох намінацыях: дзіцячая, сацыяльная й навукова-папулярная літаратура.

Пасля цырымоніі ўручэння прэміі Святлана Алексіевіч сустрэлася з культавым кітайскім пісьменнікам, лаўрэатам прэміі Франца Кафкі ў 2014 годзе, фіналістам прэміі Букер Янь Лянкэ. А 20 жніўня яна сустрэлася з кітайскім пісьменнікам, лаўрэатам Нобелеўскай прэміі 2012 года Мо Янем.

Апрача прэміі "Вэньцзінь", пісьменніца ў Кітаі атрымала прэмію Шанхайскага кніжнага кірмашу і ўзнагароду Пекінскага кніжнага кірмашу.

**"Радыё Свабода"**

навіны

## У ФІНЛЯНДЫІ УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ СЫГРАЎ У СПЕКТАКЛІ САМ СЯБЕ

Літаратурна-тэатральны вечар, прысвечаны юбілею Уладзіміра Някляева, прайшоў у клубе Нацыянальнага тэатра Фінляндыі.

Арганізатарамі мерапрыемства выступілі Міністэрства замежных спраў Фінляндыі і фінскі ПЭН-цэнтр. "Мы не таму арганізавалі ўшанаванне Някляева ў Хельсінкі, што беларускія ўлады не дазволілі яму правесці юбілейную літаратурную сустрэчу ў Мінску. Проста мы лічым Някляева не толькі беларускім паэтам і грамадзянінам, але і фінскім. Вялікім паэтам і вялікім грамадзянінам", – цытуюць naviny.by паэта і перакладчыка, каардынатара Міжнароднага ПЭН-клуба Юку Малінена.

Са сцэны гучалі вершы, прысвечаныя Уладзіміру Някляеву фінскімі паэтамі, музыка, а затым быў паказаны спектакль па паэме Някляева "Рускі цягнік". Ролю аўтара паэмы ў спектаклі сыграў сам Уладзімір Някляеў.

З 70-годдзем Някляева павіншавалі таксама на сустрэчы ў Міністэрстве замежных спраў Фінляндыі.

**"Радыё Свабода"**

навіны




## У ЗША ПРАДАЮЦЬ БЕЛАРУСКІЯ БАНКНОТЫ З "ПАГОНЯЙ", ЯКІЯ МУСІЛІ ЗАМЯНІЦЬ "ЗАЙЧЫКАЎ"

На амерыканскім аўкцыёне Stack's Bowers Galleries прадаюць камплект унікальных беларускіх банкнот, якіх не бачылі беларусы.

Грошы былі надрукаваныя ў 1993 годзе ў Нямеччыне і мусілі прыйсці на змену "зайчыкам" (часовай грашовай адзінцы). Аднак пакуль улады чакалі зручны момант для ўвядзення новых грошай, да ўлады прыйшоў Аляксандр Лукашэнка, які ў 1995 годзе ініцыяваў рэферэндум аб змене нацыянальнай сімволікі. Грошы, на якіх былі бел-чырвона-белы сцяг і "Пагоня", перасталі быць актуальнымі і іх, нібыта, знішчылі. Цяпер жа высвятляецца што не ўсе, піша сайт belbonistika.com.

Адзначаецца, што 6 банкнот прадаваліся адным лотам за 6 тысяч долараў. Ахвочых купіць беларускія грошы не знайшлося. Дзякуючы аўкцыёну, у беларусаў з'явілася магчымасць пабачыць выявы грошай з нацыянальнай сімволікай, са Скарынам (100 рублёў), Коласам (10 рублёў), Купалам (20 рублёў), Багдановічам (50 рублёў). На купюры наміналам 1 рубель змешчана выява Камянецкай вежы, на 5-рублёўцы – Свята-Ефрасіннеўская царква ў Полацку.

**euroradio.fm**

навіны

## ГАЛОЎНЫЯ БІБЛІЯТЭКІ ЗША АТРЫМАЛІ ФАКСІМІЛЕ КНІГ СКАРЫНЫ

Кнігі беларускага першадрукара цяпер будуць даследаваць і за акіянам – у Вашынгтоне, у Бібліятэцы Кангрэсу ЗША, а таксама ў Нью-Ёрку, у публічнай бібліятэцы імя Стывена Шварцмана.

Факсімільнае выданне "Кніжная спадчына Францыска Скарыны" ў 11 тамах прэзентаваў дзвюм галоўным бібліятэкам ЗША Раман Матульскі, дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. На цырымоніі прысутнічала прадстаўніца беларускай дыяспары ў ЗША Кацярына Фаронда – заснавальніца першай беларуска-амерыканскай асацыяцыі "Брыдж".

"Узяць удзел у мерапрыемстве мяне запрасіў консул Беларусі ў Нью-Ёрку. Цырымонія стала для мяне пацверджаннем фармавання пазітыўнага іміджу Беларусі ў свеце. Таму для мяне было вялікім гонарам стаць удзельніцай сапраўды гістарычнай падзеі. Я аднолькава люблю Беларусь – сваю Радзіму, і ЗША – свой цяперашні дом. Для мяне важна, каб абедзве краіны сябравалі", – падзялілася ўражаннямі Кацярына Фаронда.

За аснову факсімільнага выдання ўзятыя электронныя копіі кніг, што былі надрукаваныя ў Вільні ды Празе ў 16 стагоддзі. Выданне захоўвае шрыфты, якімі карыстаўся Скарына, а таксама ўтрымлівае гравюры з арыгінальных кніг.

Амерыканцы не першыя, хто атрымаў каштоўны скарб у свае бібліятэкі. Скарынаўскае слова ўжо маюць украінцы, расійцы, літоўцы, латышы, палякі, чэхі ды жыхары Вялікабрытаніі. Да 500-годдзя кнігадрукавання, якое адзначаць у наступным годзе, завершаць выпуск усіх 25 кніг "Кніжная спадчына Францыска Скарыны". Ініцыятары ўнікальнага культурніцкага праекту – Нацыянальная бібліятэка Рэспублікі Беларусь і банк "БелВЭБ".

**Марына Яўсейчык, "Радыё Свабода"**



## ВІНШАВАННІ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў верасні: Алену Анісім (Беларусь), Алеся Пашкевіча (Беларусь), Змітра Саладуху (Беларусь), Ірыну Кузьміч (Латвія), Георгія Казака (Расія).

Жадаем шаноўным імяніннікам добрага здароўя, дабрабыту, доўгіх гадоў жыцця поспехаў у працы.

22 верасня юбілей святкуе сябра Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Уладзімір Колас (Беларусь). Сардэчна віншуем шаноўнага спадара Уладзіміра з юбілеем і зычым моцнага здароўя, творчага натхнення і поспеху ва ўсіх справах!

**Управа МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"»**

**гутарка**

# Вячка Целеш: "ВОДБЛІСКІ ПАДАЮЦЬ НА МАСТАКА АД ЛЮБОЙ КРЫНІЦЫ СВЯТЛА – І ГЭТА РОБІЦЦА БАЧНЫМ У ЯГОНЫХ КАРЦІНАХ"

Чарговая выстава Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар" адбылася ў Латвійскім музеі пажаратушэння ў Рызе. Пра гэтую падзею, блізкі юбілей суполкі, якая аб'ядноўвае творцаў з чатырох краін, а таксама пра асабістыя планы мы пагутарылі з яе заснавальнікам, вядомым мастаком, сябрам Вялікай Рады Згуртавання "Бацькаўшчына" Вячкам Целешам.



Заснавальнікі Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар". Фота з прыватнага архіва В.Целеша
Злева: М.Астраўмава, В.Целеш, Л.Лойка, М.Чырыч, В.Сівуха, В.Дзевіскіба, І.Чарнякевіч. Рыга, 1991 г.

**– 8 ліпеня ў Рызе адкрылася выстава Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю Гонар" пад назвай "Водбліскі". Чым яна адметная? Чаму месца экспазіцыі такое незвычайнае – Латвійскі музей пажаратушэння?**

– Гэта чарговая выстава нашага аб'яднання. Музей прысвечаны гісторыі змагання з пажарамі ў Латвіі, але праводзіць і іншыя мерапрыемствы. Нам прапанавалі зрабіць мастацкую выставу, мы з радасцю пагадзіліся, назвалі яе "Водбліскі", каб выстава была ўсё ж звязаная з тэмай музея, і сабралі адпаведныя творы. Водбліскі бываюць не толькі ад полымя пажару, водбліскі падаюць ад любой крыніцы святла – на прадметы нацюрморта, на дрэвы і дамы ў пейзажы, нарэшце, на мастака, калі ён малюе – і гэта робіцца бачным у ягоных карцінах. У экспазіцыі ў асноўным прадстаўлены працы ў цёплым каларыце.

**– Усяго праз некалькі месяцаў аб'яднанне будзе святкаваць 25-гадовы юбілей. Як плануеце яго адзначыць?**

– Юбілейная выстава запланаваная на 17 лістапада і прымеркаваная да 98-й гадавіны абвяшчэння незалежнай Латвійскай Рэспублікі (адзначаецца 18 лістапада). Да выставы мы збіраемся выдаць буклет, надрукаваць афішу. На адкрыццё хочам запрасіць мастакоў нашых суполак з Літвы і Эстоніі.

**– Сябры аб'яднання з геаграфічных і эканамічных прычын не заўсёды мелі магчымасць удзельнічаць у адкрыцці выставаў. Змяняўся і склад суполкі. Як выглядае суполка цяпер? Ці далучаецца моладзь да сяброўства? Хто з іх дае асаблівыя надзеі?**

– З розных прычын змяняліся і калектыў аб'яднання, і ступень удзелу мастакоў. Аб'яднанне было заснавана 12 студзеня 1991 года, калі паміж Латвіяй, Літвой, Эстоніяй, Расіяй і Беларуссю не было мытняў. Тады ж нашыя выставы адбыліся ў Рызе, у Эстоніі і ў Беларусі. У іх таксама бралі ўдзел мастакі суполкі з Санкт-Пецербурга, Вільні, з эстонскага гораду Йыхві. Як толькі ўвялі візавы рэжым, ад нас адразу адышла пецярбургская суполка... Новыя мастакі-беларусы прыходзяць да нас увесь час, але ў асноўным папаўняецца латвійская суполка. Ад самага пачатку ў яе ўваходзілі тры мастакі, а цяпер нас шаснаццаць. Тры мастакі былі ў літоўскай суполцы. На жаль, адзін з яе ўдзельнікаў, выбітны мастак Алег Аблажэй, сёлета адышоў у лепшы свет. Трох мастакоў мае эстонская суполка. Усяго Аб'яднанне цяпер налічвае дваццаць аднаго мастака. Зусім маладых мы, на жаль, не маем, сябрам аб'яднання ў асноўным "пасля сарака".

**– 25 гадоў – доўгі шлях. Што можаце адзначыць з самага важнага з гісторыі суполкі?**

– Найбольш радаснымі былі часы, калі Міністэрства культуры Беларусі ў 1992 годзе арганізавала нашую выставу ў Мінску, а ў 1993 годзе мы ў межах Першага з'езду беларусаў свету ўдзельнічалі ў выставе "Жыве Беларусь!". З таго часу Беларусь больш не запрашала нас. Толькі дзякуючы Згуртаванню беларусаў свету "Бацькаўшчына" і прафесару Адаму Мальдзісу невялікія выставы аб'яднання "Маю гонар" адбыліся ў 2013 годзе – падчас 6-га З'езду беларусаў свету, а таксама ў памяшканні Інбелкульта ў Мінску. Усе працы з той выставы мы падаравалі краіне, цяпер яны знаходзяцца ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва Беларусі. Самае важнае для нас тое, што Аб'яднанне папаўняецца новымі мастакамі, і штогод у Латвіі ладзяцца яго выставы. Таксама нашыя мастакі ўдзельнічаюць у агульных выставах мастакоў Латвіі, гэтым мы нагадваем жыхарам краіны аб прысутнасці тут беларусаў і аб нашай нацыянальнай культуры.

**– Мы ведаем, што менавіта дзякуючы Вам і таму, што Вы ўваходзіце ў склад Кансультацыйнага Савета пры прэзідэнту Латвіі, удалося ўратаваць ад закрыцця беларускую школу ў Рызе. Якім чынам сёння Латвія працуе з нацыянальнымі меншасцямі, якая ўвага надаецца беларусам? Што, на Вашу думку, магла б зрабіць беларуская дзяржава для захавання і развіцця беларускай прысутнасці ў Латвіі?**

– Ад 1995 года пры першым прэзідэнту Латвіі Гунтысу Ульманісу пачаў працаваць Кансультацыйны Савет нацыянальных меншасцяў Латвіі, і да 2015 года я быў яго сябрам. Цяпер там беларусаў прадстаўляе сябра Рады Латвійскага таварыства беларускай культуры "Світанак", дырэктарка Рыжскай беларускай асноўнай школы імя Янкі Купалы Ганна Іванэ. За час працы ў Савеце я здолеў абараніць ад закрыцця беларускую праграму "Світанак" на Латвійскім радыё і нашу беларускую школу... Таварыства "Сьвітанак" з 1988 года з'яўляецца сябрам Асацыяцыі нацыянальных культурных таварыстваў Латвіі імя Іты Казакевіч. Праз Асацыяцыю яно атрымлівае фінансавую падтрымку з боку дзяржавы, а праз напісанне праектаў мерапрыемстваў падтрымліваецца латвійскімі фондамі культуры. "Маю гонар" да 2012 года адносілася да таварыства "Світанак", але цяпер мы зарэгістраваны як самастойная арганізацыя, і атрымліваем падтрымку дзяржавы праз складанне праектаў. Але гэта вельмі мала. Каб яшчэ Беларусь магла нам дапамагаць так, як гэта было ў пачатку 1990-х гадоў, то сёння мы мелі б больш магчымасцяў для працы на карысць захавання і развіцця беларускай культуры.

**– Якія творчыя планы мае Аб'яднанне? Можа быць мяркуецца выстава ў Беларусі?**

– Планы нашых мастакоў – гэта маляваць і ладзіць выставы там, дзе іх яшчэ не было. Наша даўняя мара – выстава ў Беларусі. Сёлета я сустракаўся ў Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь з намесніцай міністра культуры спадарыняй Ірынай Дрыгай. Яна абяцала паведаміць нам, ці зможа міністэрства арганізаваць нашу юбілейную выставу ў Мінску. Зараз мы чакаем вырашэння гэтага пытання.

**– У адным з інтэрв'ю вы казалі пра намер распачаць працу над кнігай "Мой шлях у мастацтва". Як прасоўваецца праца? Калі мяркуеце выдаць?**

– Мой шлях у мастацтва быў доўгім і цікавым, хацелася б пра яго расказаць. Але цяпер я працую над даследаваннем жыцця і творчасці беларускіх мастакоў Латвіі, якія нарадзіліся, жылі ці працавалі ў Латвіі ў 1930–1940-я гады – гэта Пётра Міранові ч, Міхась Калінін, Дзмітрый Гадыцкі-Цвірка, Аркадзь Салаўёў і Аляксандра Бельцава. Далей мне трэба будзе скончыць працу над каталогамі беларускіх старых паштовак і напісаць "Гісторыю беларускай паштоўкі". Толькі пасля гэтага я хацеў бы напісаць кнігу ўспамінаў.

Працяг на старонцы 6.

гутарка

## Вячка Целеш: "ВОДБЛІСКІ ПАДАЮЦЬ НА МАСТАКА АД ЛЮБОЙ КРЫНІЦЫ СВЯТЛА – І ГЭТА РОБІЦЦА БАЧНЫМ У ЯГОНЫХ КАРЦІНАХ"

Працяг са старонкі 5.

**– Ці шырыцца Вашая калекцыя паштовак? Ці варта чакаць пашыраных перавыданняў "Гарадоў Беларусі на старых паштоўках" і "Мінска на старых паштоўках"?**

– Калекцыя павялічваецца, але вельмі марудна, бо цяпер я збіраю толькі паштоўкі з краявідамі майго Ваўкавыска і старыя паштоўкі з надпісамі на беларускай мове. Апошняе перавыданне кнігі "Гарады Беларусі на старых паштоўках", дапоўненае вялікай колькасцю старых мінскіх паштовак, адбылося ў 2014 годзе. Прэзентацыя гэтай і яшчэ адной маёй кнігі "Адсюль наш род, тут мой прычал" прайшла сёлета ў Ваўкавыскай раённай бібліятэцы. Перавыдаваць кнігу "Мінск на старых паштоўках" я пакуль што не планую. Каб нешта большае апавесці, трэба часцей бываць у Мінску і сядзець у архівах. А я ж мастак, а не гісторык, мне трэба маляваць карціны, удзельнічаць у выставах.

**– Ці працягваеце працаваць у жанры экслібрысу? Калі так, то для каго рабілі апошнім часам? Ці паступаюць новыя замовы?**

– Экслібрысам я заўсёды займаўся няшмат, а апошнія гады – яшчэ меней. Няма для гэтага часу. Апошнія беларускія экслібрысы я зрабіў у 2014 годзе, прысвяціў іх майму сябру, латышскаму паэту Улдысу Бэрзыньшу да сямідзесяцігоддзя, а таксама Алегу Трусаву да шасцідзесяцігоддзя. У 2015 годзе я зрабіў адзін экслібрыс для латвійскага палітолага Філіпа Раеўскага. Яшчэ пры жыцці Генадзя Бураўкіна я збіраўся прысвяціць яму экслібрыс, але цяпер буду шукаць магчымасць, каб прысвяціць яму экслібрыс хоць пасмяротна.

**– Калі чакаць Вашую персанальную выставу ў Беларусі?**

– Персанальная выстава ў Мінску – пакуль што толькі мара. Нават да ўласнага сямідзесяцігоддзя ў 2008 годзе я не змог зрабіць выставу графікі і экслібрыса ў Мінску ў дзяржаўным музеі. Добра што мае сябры, мастак Віктар Маркавец і мастацтвазнаўца Таццяна Гаранская, прапанавалі сваю галерэю "Фальварак Добрыя мыслі", а Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" таксама дапамагло сабраць нашых сяброў на яе адкрыццё. У снежні 2015 года мая выстава графікі і экслібрысу адбылася ў Галерэі Асацыяцыі нацыянальных культурных таварыстваў, а другая персанальная выстава жывапісу і графікі "Гадоў датыкненні", прысвечаная саракагоддзю маёй творчай дзейнасці, адбылася пры канцы года ў Рыжскай ратушы. Наступную персанальную выставу ў Рызе я пакуль не планаваў.

**– Скажыце колькі словаў да чытачоў нашага сайта і бюлетэня.**

– Добра, калі ёсць сябры, а такімі сябрамі для нас, беларусаў замежжа, ёсць Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", з яго нястомнымі руплііўцамі, кіраўніком Аленай Макоўскай, старшынёй Рады Нінай Шыдлоўскай і іх паплечнікамі.

**Старшыня Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар" Вячка Целеш. Рыга. 1 жніўня 2016 г.**

**Гутарыў Сяргей Кандрацёнка, прэс-сакратар Згуртавання "Бацькаўшчына"**

**Надрукавана ў скароце. Цалкам глядзіце на zbsb.org**

навіны

## У НЬЮ-ЁРКУ СУСТРЭЛІСЯ СЯБРЫ АБ'ЯДНАННЯ "ПАГОНЯ"

Пакуль увесь свет зачараваны сачыў за навінамі з Рыа і заўзеў за свае нацыянальныя каманды, у Нью-Ёрку адбыліся значныя лакальныя падзеі.

13 жніўня ў Цэнтральным парку каля 20 дзеячаў беларуска-амерыканскага аб'яднання "Пагоня" сустрэліся ў нефармальнай абстаноўцы, каб абмеркаваць планы на найбліжэйшы час, а таксама пазнаёміць новапрыбылых у ЗША беларусаў са справамі арганізацыі.

"Такія сустрэчы – выдатны спосаб пазнаёміцца з суайчыннікамі і набыць новых сяброў, якія не толькі растлумачаць, як разабрацца з новым асяроддзем, але і дадуць слушныя парады наконт патэнцыйнай працы, вучобы", – адзначыў старшыня аб'яднання Віталь Зайка.

Асноўнай тэмай стала абмеркаванне выбараў дэпутатаў палаты прадстаўнікоў Беларусь, якія маюць адбыцца неўзабаве. Пазіцыя арганізацыі ў асобе кіраўніка і ўдзельнікаў нейтральная. Усе сышліся на думцы, што гэта будзе падрыхтоўка кандыдатаў да наступных прэзідэнцкіх выбараў, а вынікі не маюць ніякага значэння, бо іх праўдзівасць і легітымнасць выклікаюць сумнеў яшчэ на этапе падрыхтоўкі. Не варта, аднак, адмаўляць, што "ёсць кандыдаты з годнай праграмай, якія пры лепшых умовах маглі б нешта памяняць і рэалізаваць".



Таксама нам удалося пагутарыць са "старажыламі" "Пагоні", якія цягам амаль чатырох гадоў з'яўляюцца актыўнымі ўдзельнікамі мерапрыемстваў, што праводзяцца пад эгідай аб'яднання. Марына Цітова падзялілася ўражаннямі аб нядаўнім Маршы паднявольных народаў (акцыя салідарнасці з народамі, якія аказаліся пад прыгнётам) і распавяла, што сёлета колькасць беларусаў на мерапрыемстве была рэкорднай: 17 ліпеня на вуліцы Нью-Ёрка са сцягамі выйшлі больш за 100 чалавек. Марына пацвердзіла існае меркаванне, што, жывучы ў эміграцыі, пачынаеш мацней шанаваць культуру роднай краіны і ганарыцца сваім паходжаннем, няхай нават і даводзіцца кожны раз тлумачыць амерыканцам, дзе знаходзіцца Беларусь. Менавіта таму традыцыйныя святы кшталту Купалля і Гуканя вясны выклікаюць такі водгук сярод беларусаў у Амерыцы, якія з задавальненнем збіраюцца разам і адпраўляюцца на пошукі папараць-кветкі.

Адным з напрамкаў развіцця і працы аб'яднання ў бліжэйшыя месяцы стане якаснае асвятленне ў СМІ дзейнасці "Пагоні".

**Раман Леўчанкоў, "Наша Ніва"**

навіны

## "БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ" У ДУБІЧАХ-ЦАРКОЎНЫХ

Беларускія песні ў выкананні калектываў з Беластока, Гайнаўкі, Старога Ляўкова, Бельска-Падляшскага ды Беларусі пачулі ўдзельнікі "Беларускага народнага фестывалю" ў Дубічах-Царкоўных.

"На гэтым фэсце мы маем магчымасць выйсці з беларускай культурай на шырэйшую публіку, – кажа Кацярына Філіпюк з Беларускага грамадска-культурнага таварыства. – Хочацца падтрымаць культуру сярод жыхароў, зацікавіць турыстаў. Стараемся спалучыць эстраду з аўтэнтычным неапрацаваным фальклорам. Хацелася б, каб розныя групы слухачоў маглі тут знайсці штосьці для сябе". Галоўнымі арганізатарамі мерапрыемства былі Беларускае грамадска-культурнае таварыства ды войт гміны Дубічы-Царкоўныя.

**Паводле "Радыё Рацыя"**



навіны

# ЖНІВЕНЬ У ЛАТВІІ

## Лета ў Малінаве

6 жніўня Малінаўская валасць святкавала Дзень валасці. Днём наведнікаў свята чакала мноства розных мерапрыемстваў, а ўвечары – канцэрт калектываў Даўгаўпілса і Даўгаўпілскага краю. Запрашэнне ўзяць удзел атрымала і беларускае культурна-асветніцкае таварыства "Уздым". На свята ў Малінава прыехалі старшыня "Уздыму" Людміла Сінякова частка гурта народнай песні "Купалінкі".

Святочны канцэрт адкрыла старшыня Даўгаўпілскай краявой Думы Яніна Яўлінска з падзякавй за падтрымку традыцыі святкаваць Лета.

## Выстава ў Краславе

Сёлета таварыства "Уздым" у школе Краславы ладзіла выставу самадзейных мастакоў у межах святкавання Дзён славянскай культуры. Наведнікі выставы мелі магчымасць пабачыць карціны Галіны Жэлабоўскай, Анастасіі Сазанковай, Оскара Янсана і Надзеі Паўловіч.

А ў школе якраз быў чарговы выпуск вучняў факультатыва беларускай культуры, які працуе з 1993 года з ініцыятывы дырэктара Аркадзя Флейшмана. Сёлета факультатыў сконылі дзевяць вучняў. З віншавальнымі словамі да выпускнікоў звярнуліся дырэктарка школы Людміла Сенчанкова і кіраўніца факультатыва Надзея Тадэла. Таксама школу наведаў прадстаўнік Полацкага дзяржуніверсітэта Аляксандр Андрыеўскі. Вучні, апранутыя ў беларускія нацыянальныя строі, праспявалі некалькі беларускіх песень.

## Хороша душы на "Браслаўскім кірмашы"

Таварыства "Уздым" паўдзельнічала ў "Браслаўскім кірмашы". Свята ладзілася 7 жніўня ў Доме рамёстваў, што на беразе возера Дрывяты, і сабрала шмат удзельнікаў ды гледачоў з Латвіі, Расіі і нават з Амерыкі.

Суполку прадстаўлялі старшыня таварыства Людміла Сінякова, сябар праўлення Жанна Бляяўская, гісторык-краязнавец Мікола Паўловіч, а таксама гурт народнай песні "Купалінка": Тэрэса Паўлава, Валянціна Ліпінская, Іна Валюшка. Гурту даручылі адкрыць свята беларускімі і латышскімі народнымі спевамі.

## Беларусы двух гарадоў на Даўгаве адзначылі "Свята бульбы"

6 жніўня ў беларускім таварыстве "Спатканне" (г. Екабпілс) у вельмі душэўнай атмасферы прайшло "Свята бульбы" з удзелам і гасцей з Даўгаўпілса – прадстаўнікоў Цэнтра беларускай культуры і культурна-асветніцкага таварыства "Уздым".

Старшыня екабпілскага беларускага таварыства "Спатканне" Валянціна Дарашчонак адкрыла вечар вершам Рыгора Барадуліна "Чышчу бульбу". Запальныя песні мясцовага ансамбля "Завіруха" пра бульбу чаргаваліся з аповедамі вядучай пра гісторыю з'яўлення бульбы на беларускай зямлі, яе смакавыя і лекавыя якасці і пра шматлікія стравы, якія можна прыгатаваць з гэтага прадукту.

Удзельнікі свята і шматлікія госці ўдзельнічалі ў віктарынах і гульнях, разгадвалі загадкі, чыталі вершы, спявалі песні, танцавалі. Кульмінацыяй усяго стала дэгустацыя шматлікіх страў, прыгатаваных з душой і любоўю ўмелымі рукамі майстрых-гаспадынь Екабпілса. І чаго тут толькі не было: бульба вараная, бульба смажаная, клёцкі, дранікі, бабка, калдуны, бульбянікі, цэпеліны – усяго не пералічыць! А да іх яшчэ і салаты, адным з кампанентаў якога абавязкова з'яўлялася бульба, і свежая гародніна, і хатняя каўбаса, і смачны хлеб, і пірагі з ягадамі і фруктамі.

Дэлегацыя беларусаў Даўгаўпілса са сцэны ўрачыста павіншавала арганізатараў, удзельнікаў і гасцей і праспявала песню "Мы вам жадаем". Дырэктар Цэнтра беларускай культуры Жана Раманоўская прапанавала екабпілскім беларусам зрабіць "Свята бульбы" сваім брэндам і праводзіць штогод.

**Паводле Тэрэсы Паўлавай і Міколы Паўловіча, сяброў таварыства "Уздым"; Марыі Памецькі, метадысткі Цэнтру беларускай культуры**

навіны

# КАМУ НАЛЕЖЫЦЬ БУДУЧЫНЯ?

Прафесар Арнольд Макмілін выдаў грунтоўную работу "Рунь: Маладыя беларускія паэты пачатку XXI стагоддзя".

Арнольд Макмілін з'яўляецца сябрам Англа-беларускага таварыства і ўдзельнікам выдання "The Journal of Byelorussian Studies". За час навуковай дзейнасці выдаў шэсць кніг, прысвечаных беларускай літаратуры, пісаў прадмовы да зборнікаў беларускай паэзіі, пераклаў разам з Верай Рыч на англійскую мову паэму "Тарас на Парнасе".

"Працы Арнольда Макміліна адкрылі для англамоўнага свету ўвесь спектр беларускай літаратуры – ад старажытнасці да паэзіі 2010-х", – пісаў пра яго дзейнасць літаратуразнаўца Ціхан Чарнякевіч.

У цэнтры ўвагі Арнольда Макміліна гэтым разам апынуліся 40 маладых паэтаў Беларусі. Аўтар разглядае дэбютныя зборнікі, радзей – першыя дзве кнігі аўтара. Такім чынам даследчык прасочвае менавіта нараджэнне новай паэзіі, хаця часам атрымліваецца пэўнае скажэнне, многія з разгляданых у "Руні" аўтараў займелі на час выхаду даследавання новыя кнігі, больш сталыя, а часам і моцна адрозныя ад дэбютных зборнікаў (Таццяна Сівец, Наста Кудасава). Віктар Лупасін фігуруе ў "Руні" як Віктар Ыванoў, але сёння паэт гэтым псеўданімам не карыстаецца. Ёсць нюанс і з азначэннем "маладыя". Арнольд Макмілін абраў мяжой маладосці 1980 год. Гэта значыць, асобным творцам споўнілася ўжо 36 гадоў…

Кожны артыкул будуецца па пэўнай схеме. Напачатку – звесткі пра паэта, дадатак да ўжо прыведзеных біяграфічных звестак. Тут даследчык вылучае найбольш выразныя рысы творчасці разгляданага паэта, паведамляе пра род заняткаў аўтара, называе зборнікі, згадвае ўзрост аўтара на час яго літаратурнага дэбюту. Абавязкова прыводзяцца звесткі пра тое, рыфмуе паэт ці не, як абыходзіцца з пунктуацыяй. Пры гэтым артыкулы прафесара нельга назваць сухімі і канстатацыйнымі. Ён не саромеецца выказаць чытацкае ўражанне ад прачытанага. Такія асабістыя штрышкі ў навуковай працы робяць апошнюю сімпатычнай, у нечым нават кранальнай. У чытача заўжды застаецца права паспрачацца з даследчыкам, з-за чаго ствараецца ўражанне дыялогу.




**Паводле Насты Грышчук, "Звязда"**

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ВЕРАСЕНЬ 2016 ГОДА

4 верасня – 110 гадоў таму, у 1906-м, нарадзіўся Ігнат Дуброўскі (сапр. Ігнат Чарняўскі), пісьменнік, навуковец.

4 верасня – 80 гадоў таму, у 1936-м, нарадзіўся Сакрат Яновіч, польскі беларускі пісьменнік.

5 верасня – 115 гадоў таму, у 1901-м, нарадзіўся Віталь Вольскі (сапр. Вольскі-Зэйдэль), пісьменнік, літаратуразнавец.

7 верасня – 75 гадоў таму, у 1941-м, нарадзіўся Уладзімір Гайдук, паэт.

7 верасня – 160 гадоў таму, у 1856-м, памёр Цімафей Ліпінскі, гісторык, географ, філолаг.

8 верасня – 502 гады таму, у 1514-м, адбылася бітва пад Оршай, у якой войскі Вялікага княства Літоўскага на чале з Канстанцінам Астрожскім нанеслі паражэнне маскоўскаму войску. Дзень беларускай вайсковай славы.

8 верасня – 225 гадоў таму, у 1791-м, нарадзіўся Людвік Сабалеўскі, філолаг.

8 верасня – 40 гадоў таму, у 1967-м, памёр Вячаслаў Селях-Качанскі, музычна-драматычны дзеяч.

10 верасня – 100 гадоў таму, у 1916-м, памёр Аляксандр Ельскі, гісторык, пісьменнік.

11 верасня – 175 гадоў таму, у 1841-м, нарадзіўся Гіяцынт Альхімовіч, мастак, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

11 верасня – 175 гадоў таму, у 1841-м, памёр Міхаіл Рукевіч, удзельнік вызваленчага руху.

13 верасня – 20 гадоў таму, у 1996-м, памёр Эрнст Ляўкоў, геолаг, краязнавец.

14 верасня – 110 гадоў таму, у 1906-м, у Вільні выйшаў першы нумар першай легальнай беларускай газеты "Наша Доля".

16 верасня – 85 гадоў таму, у 1931-м, нарадзіўся Пётр Лысенка, археолаг.

17 верасня – 125 гадоў таму, у 1891-м, нарадзіўся Антон Баліцкі, грамадска-культурны дзеяч.

19 верасня – 95 гадоў таму, у 1921-м, памёр Кандрат Лейка, пісьменнік, педагог.

19 верасня – 25 гадоў таму, у 1991-м, Вярхоўны Савет Беларусі прыняў пастанову аб змене назвы Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі на Рэспубліку Беларусь. Дзяржаўным гербам была зацверджана "Пагоня", а дзяржаўным сцягам – бел-чырвона-белы сцяг.

23 верасня – 80 гадоў таму, у 1936-м, нарадзіўся Сямён Шарэцкі, дзяржаўны дзеяч.

25 верасня – 65 гадоў таму, у 1951-м, у савецкім канцлагеры, загінуў Вячаслаў Лаўскі, грамадска-культурны дзеяч, адзін з заснавальнікаў беларускага студэнцкага руху.

25 верасня – 20 гадоў таму, у 1996-м, патануў Мікола Селяшчук, мастак.

26 верасня – 40 гадоў таму, у 1976-м, памерла Леаніла Чарняўская, перакладчыца, пісьменніца, настаўніца.

28 верасня – 80 гадоў таму, у 1936-м, нарадзіўся Рудольф Пастухоў, пісьменнік, грамадскі дзеяч.

29 верасня – 125 гадоў таму, у 1891-м, нарадзіўся Аркадзь Смоліч, нацыянальна-дзяржаўны дзеяч Беларускай Народнай Рэспублікі, вучоны, географ.

30 верасня – 85 гадоў таму, у 1931-м, нарадзіўся Ніл Гілевіч, паэт і грамадскі дзеяч.

навіны "Будзьма!"

# «БАРАДУЛІНКІ»: КУЛЬТУРНАЕ РАЗВІТАННЕ З ЛЕТАМ

Прэзентацыя кнігі Віктара Марціновіча, адкрытыя заняткі "Мова нанова", выступ Андруся Такінданга, збор сродкаў на мемарыльяную шыльду Рыгору Барадуліну...

Усіх, хто цікавіцца культурным жыццём, і неабыякава ставіцца да роднай мовы, літаратуры і музыкі, у Віцебску ў апошнія выходныя жніўня чакала літаратурна-музычнае свята "Барадулінкі", якое праходзіла ў дворыку і будынку Арт-прасторы (вуліца Таўстога, 7). Арганізатарамі мерапрыемства, якое праходзіла ўжо ў другі раз, выступілі аддзел ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі віцебскага гарвыканкама, сацыяльна-культурная ўстанова "Vitebsk4me", грамадска-культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!" і Віцебскі цэнтр сучаснага мастацтва.

У дворыку Арт-прасторы былі арганізаваны кірмаш, на якім можна было набыць адмысловыя вырабы і сувеніры, а таксама ладзіўся вольны абмен рэчамі.

"Такіх невялікіх, лакальных мерапрыемстваў павінна быць як мага больш, – зазначыў адзін з арганізатараў свята, каардынатар кампаніі "Будзьма беларусамі!" па Віцебскай вобласці Уладзімір Булаўскі. – Праграма фэсту кожны год мяняецца. Сёлета мы прапанавалі далучыцца да нашага свята курсам беларускай мовы "Мова нанова".

Праграму фэсту распачаў нязменны вядучы гэтых курсаў у Віцебску Сяржук Маркаў, які прапанаваў прысутным выканаць колькі заданняў, прысвечаных асобе і творчасці народнага паэта Рыгора Барадуліна.

"Канешне, сёння былі не паўнавартасныя заняткі, але, спадзяюся, прысутным яны спадабаліся і падарылі добры настрой, – сказаў Сяржук Маркаў. – Займацца мы пачнем 14 верасня, як звычайна, у сераду, у 18.30 у памяшканні турсалона "Ілва" (Леніна, 53). Наведнікаў бясплатных курсаў чакаюць цікавыя сустрэчы, выступы музыкаў, творчыя заданні і заняткі па граматыцы, якія праводзіць кандыдатка філалагічных навук Таццяна Дубоўская".

Спецыяльным госцем фэсту "Барадулінкі" стаў музыкант, паэт і тэлевядоўца Андрусь Такінданг, які выступіў у дворыку Арт-прасторы з міні-канцэртам.

Свой праект "50 музеяў Віцебска" прадставіў краязнаўца Мікола Півавар. У кнізе, на выданне якой пакуль што няма сродкаў, будзе сабраная інфармацыя па пяцідзесяці музеях Віцебска: адрасы, найбольш цікавыя экспанаты, фотаздымкі экспазіцый, турыстычная карта. Кніга стане цудоўным даведнікам па музеях Віцебска не толькі для турыстаў, але і для жыхароў горада. Ці многія ведаюць, што ў Віцебску больш за сто музеяў, сярод якіх, напрыклад, музей газіфікацыі ці музей гісторыі ДАІ?

У нефармальнай атмасферы прайшла лекцыя паэта і перакладчыка Віталя Рыжкова пра сучасную беларускую паэзію. Віталь знаёміў прысутных з творчасцю маладых беларускіх паэтаў, што жывуць за мяжой. Сярод іх – Вальжына Морт (ЗША), Антон Францішак Брыль (Швейцарыя). Прагучалі творы Насты Кудасавай, Андрэя Адамовіча і іншых паэтаў. А завяршыў свой выступ Віталь вершам "Астэроід" паэта Ігара Канановіча, які не так даўно трагічна пайшоў з жыцця.



Уладзімір Булаўскі прадстаўляе Віктара Марціновіча. Фота Сашы Май

Больш за ўсё людзей сабралася на прэзентацыю новага рамана Віктара Марціновіча "Возера радасці". Гэты раман быў напісаны па-руску, а Віталь Рыжкоў пераклаў яго на беларускую мову. Кнігу на абедзьвюх мовах можна было набыць у дворыку і атрымаць аўтографы як аўтара, так і перакладчыка. Падчас прэзентацыі яны зачыталі невялічкія ўрыўкі з кніжкі.

Завяршылася літаратурна-музычнае свята "Барадулінкі" музычнай праграмай з удзелам мінскіх і віцебскіх калектываў і традыцыйным кінапраглядам – праграмай ад фестывалю "Cinema Perpetuum Mobile", які ўжо не ўпершыню радуе віцебскага гледача.

Падчас свята арганізатары неаднаразова нагадвалі, што праз платформу талака.бай працягваецца арганізаваны журналістам і літаратуразнаўцам Глебам Лабадзенкам збор сродкаў для стварэння і мантажу шыльды на доме, дзе жыў і пісаў народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін па вуліцы Мележа, 4 у Мінску.

"Летась мы на "Барадулінках" абвяшчалі збор сродкаў на ўсталяванне помніка на магіле паэта, – зазначыў Уладзімір Булаўскі. – Дзякуючы супольным намаганням, увосень ён быў усталяваны. Цяпер ёсць мэта змясціць мемарыяльную шыльду на доме, дзе жыў Рыгор Барадулін. Таму, калі ласка, далучайцеся. І чакайце наступныя "Барадулінкі".

**Саша Май, kurier.by**

навіны

# НА ПАДЛЯШШЫ ПРАЙШОЎ БЕЛАРУСКІ ТРЫЯЛОГ

17-ты Беларускі Трыялог завяршыў сваю працу ў Крынках на Падляшшы.

Літаратары, тэолагі, святары ды іншыя зацікаўленыя асобы дыскутавалі на тэму "Ці Бог не разумее па-беларуску?". Гэтае мерапрыемства ў свой час запачаткаваў выбітны беларускі і польскі пісьменнік Сакрат Яновіч, а цяпер гэтую справу працягвае Фонд Villa Sokrates.

Сёлетні Беларускі Трыялог распачаўся Выставай "Паганства" беларускага фатографа Андрэя Лянкевіча. Фотамастак кажа, што ўжо цалкам завяршыў свой праект:

– Прапаноўвалі здымаць чорных магаў і гэтак далей. Я зразумеў, што выходжу на тэрыторыю, якой не хачу, што я не абаронены і не падрыхтаваны. Гэта для мяне ўжо задалёка. Вышэйшыя сілы ёсць. Справа толькі ў адчуванні і ў тым, як мы ставімся да свету.

Сустаршыня партыі "Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя" Павел Севярынец упэўнены: "Беларуская нацыянальная ідэя – гэта Хрыстос, які гаворыць па-беларуску".

– Мы імкнемся да Хрыста, імкнемся быць падобнымі да яго, рабіць ягоныя справы і робім гэта па-беларуску. Усё гэта простая формула для кожнага беларуса.

Севярынец упэўнены, што аўтакефалія Беларускай праваслаўнай царквы значна паскорыла б працэс беларусізацыі.

– Бог не толькі разумее кожную мову, але і патрабуе ад нас звяртацца да яго на тых мовах, якія ён даў кожнаму народу. І калі мы гэтага не робім, то, я лічу, гэта наш грэх перад Айцом сусветаў, – кажа настаяцель гарадзенскага Свята-Пакроўскага кафедральнага сабора айцец Георгій Рой.

Біблеіст і філосаф, акадэмічны дырэктар Беларускага калегіума Ірына Дубянецкая зазначыла, што беларусы да гэтага часу не маюць паўнавартаснага перакладу Біблії на беларускую мову, хаця пачалі гэты працэс адныя з першых у гісторыі:

– Праца ідзе марудна, спецыялістаў мала, каб хутка зрабіць. Чатыры-пяць чалавек будуць перакладаць гэта дваццаць гадоў.

Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч даў свой адказ на пытанне "Ці Бог не разумее па-беларуску?":

– На пытанне адназначна адказаў сам Скарына, калі пераклаў на беларускую мову Біблію. Значыць, была патрэба ў гэтым. Таму Саюз беларускіх пісьменнікаў і кампанія "Будзьма беларусамі!", «Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"» пачалі кампанію "500-годнасць", каб пра гэтую найзначнейшую падзею ў гісторыі Беларусі ведалі ва ўсёй Беларусі, каб ганарыліся ёй у кожнай сям'і.

Сёлетнія сустрэчы завершыліся музычнымі выступамі гуртоў "Re1ikt" (разам з Сяргеем Доўгушавым) і "Port Mone" (разам з Юркам Асеннікам).

**Паводле «Беларускага Радыё Рацыя»**

**Беларусы ў свеце**
No 8 (171), жнівень 2016
Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27